**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 18 (786) 30 красавіка 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае




**Злёт байкераў у Паставах.**
*Фота Зм. Лупача.*



ISSN 2077-8023



Ушацкі раён

## ZALA, альбо цюнер?

■ Чэслаў Якубовіч.

**Неяк непрыкметна па ўсёй Беларусі адключылі не толькі праваднoе радыёвяшчанне, але і практычна не засталося рэгіёнаў з прыёмам састарэлага аналагавага эфірнага тэлебачання.**

У адпаведнасці з графікам, у пачатку красавіка рубільнік спыніў працу буйнога такога перадатчыка сігналаў з Ушач, якія дзесяцігоддзямі прымалі і жыхары некалькіх суседніх раёнаў. Пераход на новыя сучасныя стандарты прыёму тэлеперадач на ўшацкай зямлі адбыўся без асаблівых праблем для большасці мясцовых жыхароў. Нядаўна ў мясцовым раённым вузле электрасувязі ўшанавалі свайго тысячнага па ліку абанента папулярнай сеткі эфірнага тэлебачання "ZALA". Для невялікага па колькасці насельніцтва, пераважна сельскага Ушацкага раёна з менш 14 тысячамі жыхароў – гэта значная лічба, бо тут яшчэ каля трох тысяч абанентаў дагэтуль сталі карыстацца паслугамі інтэрактыўнай "ZALA" з магчымасцю запісу любімых перадач і фільмаў і прагляду іх у зручны час. Акрамя гэтага падтрымалі пажылых вяскоўцаў і мясцовыя сельвыканкамы, давалі заяўкі сувязістам на ўстаноўку патрэбнага абсталявання ў арэнду бясплатна. Да гэтай працы падключыліся нават аўталаўкі райпо, якія прывозілі незвычайныя заказы - лічбавыя айчынныя цюнеры да старых тэлевізараў. Пры калектыўных заяўках спецыялісты райпо дапамагалі і з падключэннем. Аднак цяпер тэлегледач павінен выбіраць сам, што ён будзе глядзець і слухаць, але і яшчэ плаціць грошы за гэта. Для самых скупых застаецца бясплатны сацыяльны пакет з 8-мі каналаў, які можна глядзець і па "старых" тэлевізарах. Вось толькі пры гэтым неабходна людзям купіць прыстаўку коштам пад 600 тысяч, а для ўпэўненага прыёму спатрэбіцца новая антэна і некалькі метраў кабелю. У сярэдзіне мая поўнасцю "лічба" стане дамінаваць на тэлебачанні.

Пастаўскі раён

## Зноў да "трудаднёў" ?

■ Кастусь Александровіч

**Ужо каторы месяц сёлета ў розных кутках краіны растуць праблемы з занятасцю насельніцтва, а затрымкі выплат зарплат і вымушаныя прастоі становяцца хранічнымі.**

У падобным становішчы апынуўся і буйны Пастаўскі раён, дзе была даволі развітая прамысловасць. Аднак у гэтым годзе нават перад майскімі святамі чатыры прадпрыемствы мелі даўгі яшчэ па няВыплачанай лютаўскай зарплаце. У найбольш складаным становішчы апынулася будаўнічая арганізацыя "Рассвет Пастаўскі" са сваім філіялам-сельгаспрадпрыемствам, а патрабавалася выплаціць людзям амаль 600 млн. рублёў. З будаўнікамі не ўсе разлічыліся за ўзведзеныя аб'екты, а фінансаванне новых зацягвалася. У такой жа сітуацыі апынулася і мясцовае прадпрыемства меліярацыйных работ, якому заказчыкі таксама не заплацілі за выкананыя работы. Акрамя прастояў з-за адсутнасці збыту выпушчанай прадукцыі і новых заказаў вострыя фінансавыя праблемы ніяк не ўдаецца вырашыць і двум прадпрыемствам з гарпасёлка Варапаева – дрэваапрацоўчаму камбінату і заводу жалезабетонных вырабаў. З вялікімі намаганнямі, часткова праз выплату заробкаў праз магазін за люты даўгі ўдалося пагасіць, а вось далейшыя перспектывы, як і за што жыць, застаюцца туманнымі. На гэтым фоне сітуацыя ў сельскай гаспадарцы яшчэ больш трывожная, бо райагрaсервіс і калгас "Блакітныя азёры" некалькі месяцаў не маглі разлічыцца з людзьмі за працу ў студзені. Калі і надалей не будзе за што выплочваць заробкі, то яны міжволі зменшацца, альбо колькасць працуючых будзе скарочана.

Віцебская вобласць

## За паўкрока ад гібелі

■ Станіслаў Раманчук.

**У гэтым годзе асаблівых халадоў не было, але і з надыходам вясны на Віцебшчыне практычна штодзень адбываюцца вогненныя трагедыі, на пажарах гі–нуць па некалькі людзей.**

Спачатку ў абласным цэнтры пасярод ночы з-за неасцярожнасці пры курэнні ў прыватным доме загінулі двое чалавек. Услед за гэтым, верагодна, з-за няспраўнага халадзільніка адбыўся пажар у Оршы ў адной з кватэр жылога дома на 8-м паверсе. Ад атраўлення едкім дымам загінулі трэцяя па ліку дачка гаспадара, якая прыйшла да дзеда ў госці са сваёй 6-гадовай дачкой і яе двайраднай сястрой, старэйшай на год, і вырашыла заначаваць тут назаўсёды. Гэту жудасную статыстыку гібелі людзей у агні маглі днямі дапоўніць двое жыхароў гарпасёлка Бягомль, што ў Докшыцкім раёне. Там пад канец рабочага дня суседзі заўважылі, як паваліў чорны дым з акна адной з кватэр і выклікалі пажарных. Супрацоўнікі пажарна-выратавальнай часці прыбылі аператыўна і змаглі вынесці з памяшкання гаспадара кватэры і яго брата, які таксама вырашыў праведаць родзіча. Пацярпелых выратавальнікі перадалі медыкам з выкліканай брыгады "хуткай дапамогі". На шчасце, не прыйшлося, як у Оршы, эвакуіраваць іншых жыхароў гэтага дома. У самой жа пацярпелай кватэры спатрэбіцца правесці касметычны рамонт, замяніць пашкоджаныя пасцельныя прыналежнасці, дыванок і канапу. А гаспадару кватэры і іншым аматарам зацягнуцца цыгарэтай на падпітку на будучае трэба ўсвядоміць, што такі занятак смяротэльна небяспечны. Дарэчы, менавіта ў той дзень па краіне адбылося яшчэ 11 падобных здарэнняў, загінулі двое, а 4 чалавекі атрымалі траўмы.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 30.04.15 | | | | Пятніца 01.05.15 | | | | Субота 02.05.15 | | | | Нядзеля 03.05.15 | | | | Пан. 04.05. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +3 | +7 | +14 | +9 | +6 | +8 | +11 | +9 | +8 | +8 | +11 | +7 | +6 | +6 | +13 | +8 | +6 | +10 | +16 |
| Ціск | 750 | 752 | 752 | 751 | 749 | 746 | 743 | 740 | 737 | 737 | 737 | 740 | 743 | 745 | 746 | 747 | 748 | 749 | 750 |
| Вільготнасць | 73 | 73 | 40 | 59 | 71 | 78 | 76 | 81 | 86 | 91 | 69 | 81 | 79 | 78 | 41 | 74 | 77 | 73 | 35 |
| Вецер м/сек | 2 Пд-З | 1 Пн-У | 2 У | 4 У | 5 У | 6 Пд-У | 4 Пд | 3 Пд | 4 Пд | 4 Пд | 6 Пд-З | 5 З | 5 З | 3 З | 5 З | 1 Пд | 3 Пд | 3 Пд | 4 Пд-З |

# Аб самым надзённым

## Існуючая айчынная эканамічная мадэль практычна поўнасцю сябе вычарпала, праваліўся і амбіцыйны праект мадэрнізацыі

■ Аляксандр Цішкевіч.

**А ў нас, на жаль, сёлета працягвае расці знешні і ўнутраны доўг. Камбайнаў беларусы нарабілі на паўгода наперад, запасы непрададзеных станкоў перавысілі 9-месячныя аб'ёмы іх вытворчасці. І такіх прыкладаў можна прывесці безліч, бо ў Беларусі стаў набіраць сілу класічны крызіс празмернай вытворчасці тавараў і таму прадпрыемствы вымушаны будуць масава адпраўляць сваіх работнікаў у вымушаныя водпускі.**

З кожным пражытым сёлета месяцам ужо не толькі спецыялістам становіцца відавочна, што гэты год, а таксама ўся пяцігодка, для народна-гаспадарчага комплексу Беларусі будуць правальнымі. Болей таго, калі разабрацца, сур'ёзны крызіс з 2009 года і яшчэ больш абвал у 2011 годзе неўзабаве пасля апошніх прэзідэнцкіх выбараў нашай краіне так і не ўдалося поўнасцю пераадолець да гэтага часу. Шырока разрэкламаваная мадэрнізацыя, якую курыраваў раней галоўны банкір, а потым віцэ-прэм'ер Пётр Пракаповіч, не прынесла беларусам жаданых вынікаў.

Нам прыйшлося перажыць ужо некалькі адчувальных для насельніцтва дэвальвацый нацвалюты, рост цэн стаў хранічным. Сёлета ўвогуле такое адчуванне, што беларускую эканоміку нібыта вір нясе ў тупік, не за гарамі і поўны калапс, а рэцэсія ўжо пачалася. Да чарговых выбараў застаюцца лічаныя месяцы, а ў рэальным жыцці паўсюдна знізіліся заробкі працаўнікоў і ўпалі нават даходы пенсіянераў. У цэлым гэты год пачаўся з вельмі трывожных тэндэнцый і толькі ў студзені страты айчынных заводаў і фабрык дасягнулі 35 трлн. рублёў. Па інерцыі многія з іх працягвалі працаваць, але болей на склад, бо аб'ёмы прадаж асноўнаму пакупніку – Расіі зменшыліся на амаль 40 %.

Аднак будзе памылкай звязваць усе ўзнікшыя праблемы з адной толькі агрэсіўнай палітыкай Крамля. Другі год папулярны кіраўнік сярод расіян У. Пуцін вядзе неаб'яўленую вайну супраць Украіны, за што яго народ ужо паплаціўся адчувальным зніжэннем узроўню жыцця пасля санкцый, дурацкага эмбарга на ўвоз харчавання і новай "халоднай вайны" з Захадам. Аднак пры чым тут Беларусь? Уплыў вострага расійскага эканамічнага крызісу, зразумела, сказваецца, але нас падкасілі і ўласныя недапрацоўкі, стаўка на ранейшыя камандныя метады кіравання эканомікай і нежаданне мяняць яе ранейшую з савецкіх часоў структуру, з калгасным ладам гаспадарання на зямлі.

У выніку ў Беларусі апынуліся, як у той пушкінскай казцы, ля разбітага карыта: людзі бяднеюць і адчуваюць трывогу за заўтрашні дзень. Гэта ж вам не жартачкі, калі ўжо ў сталіцы і буйных гарадах на некалькі тыдняў сталі спыняць вытворчасць гіганты індустрыі, такія як МАЗ, МТЗ, "Атлант", "Гомсельмаш". І ў правінцыі, як снежны ком, растуць праблемы з беспрацоўем. Калі такое было, каб набліжаўся Першамай, а шмат дзе людзям яшчэ не выплацілі поўнасцю зарплату за студзень-люты.

У сельскай мясцовасці, асабліва на Віцебшчыне, яшчэ болей праблем: чатыры месяцы многія вяскоўцы не атрымоўвалі зароблены грошы, маладыя сем'і не могуць атрымаць дзіцячыя дапамогі, бо не пералічваюць гаспадаркі падаткі і плацяжы ў Фонд сацыяльнай абароны. Мы дажыліся да таго, што ў суседзяў-палякаў цяпер пенсіі сталі большыя, чым заробкі ў беларусаў, якія знізіліся да 410 долараў. А некалі ж БССР нават мела крыху лепшы індустрыяльны патэнцыял, чым тагачасная ПНР. Палякі скуплялі ўсё, што мы ім прывазілі, бо ў іх крамах было шаром пакаці. Зараз стала ўсё наадварот: польскія гіпермаркеты і гіганцкія гандлёвыя галерэі запоўнены беларусамі-пакупнікамі больш танных прадуктаў, адзення, абутку, будматэрыялаў і электронікі.

А ў нас, на жаль, сёлета працягвае расці знешні і ўнутраны доўг. Камбайнаў беларусы нарабілі на паўгода наперад, запасы непрададзеных станкоў перавысілі 9-месячныя аб'ёмы іх вытворчасці. І такіх прыкладаў можна прывесці безліч, бо ў Беларусі стаў набіраць сілу класічны крызіс празмернай вытворчасці тавараў і таму прадпрыемствы вымушаны будуць масава адпраўляць сваіх работнікаў у вымушаныя водпускі. На жаль, пакуль у нас болей займаліся размовамі аб дыверсіфікацыі экспарту і прыцягненні замежных інвестыцый, той жа саюзны нам Казахстан стварыў звыш 400 новых прадпрыемстваў з сучаснымі тэхналогіямі і даўёў сярэднюю зарплату да 846 долараў.

Па звыклай традыцыі ў нас збіраюцца наспеўшыя праблемы вырашаць адным махам, тым жа "дармаедам" паабяцалі цяжкасці з выездам за граніцу, калі яны не будуць плаціць устаноўлены памер штрафаў-збораў. Для дзяржавы было б карысней, не з лайдакамі цяпер разбірацца, а аператыўна выпрацаваць новую дзяржаўную праграму занятасці насельніцтва, перанавучання персаналу, стварэння новых працоўных месцаў.

Пара ўсім усвядоміць, што цяперашні сістэмны ўсёабдымны крызіс прыйшоў у Беларусь надоўга і ўсур'ёз. Будзе, на жаль, расці колькасць звольненых з працы, усё цяжэй асабліва ў глыбінцы людзям будзе адшукаць новы занятак, каб пракарміць сям'ю. І ўсё болей відавочна, што надыходзіць той час, што ад старой савецкай грувасткай структуры эканомікі нашай краіне прыйдзецца неўзабаве нарэшце адмовіцца.

## Дзень за днём

**Колькасць прадпрыемстваў і арганізацый з даўгамі па зарплаце з пачатку года вырасла ў Беларусі ў 26 разоў, на 35 % зменшыўся тавараабарот з Расіяй. У сакавіку зноў беларусы болей прадалі на 256 млн. USD валюты, чым купілі. Кліентам лопнуўшага Дэльта Банка пачалі вяртаць іх уклады. На парадзе 9 мая ў Мінску пакажуць новую ракетную сістэму залпавага агню "Паланез", аналагаў якой няма ў Расіі. Урад Беларусі хоча пазычыць яшчэ 3 млрд. долараў у МВФ і Антыкрызіснага фонда ЕўрАзЭС. У краіне створаць новы нацыянальны тэлеканал для рэгіёнаў "Беларусь 5". З 1 верасня для першых, 5-х і 10-х класаў беларускіх школ увядуць новыя навучальныя праграмы.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** На пасаду прэзідэнта вырашыла балатавацца Хілары Клінтан і вельмі жорстка раскрытыкавала слабасць палітыкаў ЕС за іх пазіцыю наконт канфлікту на Украіне.

**Германія.** На сусветную прамысловую выставу ў Гановеры сёлета прыехалі амаль 6500 фірм і кампаній з 70 краін свету, шмат яны прадставілі тэхналогіі будучага.

**Ізраіль.** У выпадку паставак Расіяй ракет С-300 Ірану, як заявіў прафесар паліталогіі З. Ханін, урад краіны зменіць сваю палітыку па істотных і важных для рускіх накірунках.

**Расія.** Глава Мінэнерга РФ А. Новак папярэдзіў Украіну, што пасля 2019 года будуць спынены пастаўкі газу ў Еўропу праз украінскую сетку газапровадаў.

**Украіна.** Урад краіны не будзе і надалей пераілічваць сродкі на тэрыторыі ў Данбасе, якія кантралююць самазваныя ўлады баевікоў, пенсіі і выплаты будуць толькі за зонай АТА.

**ЗША.** Эксперты МВФ папярэдзілі, што эканамічны крызіс і рост цэн у Расіі сёлета выклічуць істотны спад эканомік і двухзначную інфляцыю ў іншых дзяржавах СНД.

**Латвія.** Кіраўнік каталікаў краіны кардынал Яніс Пуятс абурыўся, чаму быццам веруючы Пуцін распачаў вайну ў Данбасе супраць такіх жа праваслаўных хрысціян украінцаў.

**Куба.** Кубінцаў парадавала, што ДзяржДэпартамент ЗША выключыў іх краіну са спісу тэрарыстычных дзяржаў, што адкрывае шлях для паляпшэння ўзаемных адносін.

**Англія.** Вялікіх змен, як спрагназавала газета The Economist, можна чакаць у шэрай Беларусі пасля выбараў, якія зноў выйграе А. Лукашэнка, але яго эканоміка трашчыць.

**Казахстан.** Вучоныя Паўднёва-Казахскага ўніверсітэта пацвердзілі, што буйнейшая рака Сярэдняй Азіі – Сырдар'я настолькі моцна атраўлена, што нельга нават паліваць палі.

**Расія.** Веснавыя палы травы прывялі ў Рэспубліцы Хакасія да катастрофы: згарэла 1208 дамоў, 5 тысяч сем'яў засталіся без жылля, загінулі 29, а 900 чалавек атрымалі апёкі.

**Украіна.** Вярхоўная Рада зацвердзіла новае свята 8 мая – Дзень памяці і прымірэння ў II Сусветнай вайне, але 9 мая застаецца афіцыйным выхадным днём без савецкай сімволікі.

**Расія.** Апальны тэлеканал "Дождь" паведаміў яшчэ пра некалькі выяўленых фактаў забойстваў украінскіх ваеннапалонных прарасійскімі баевікамі з так званай "ДНР".

**Венесуэла.** Так дапякло дрэннае жыццё людзей, што ў горадзе Сан-Антоніо на адной з плошчаў яны разбілі вялізны бюст камандантэ Уго Чавеса ў прысутнасці ваенных сіл.

**Расія.** Сёлета РФ, як папярэдзіў палітолаг А. Суздальцаў, крэдыт Беларусі не дасць, а беларуская прадукцыя тэхналогій 1990-х гадоў перспектыў на расійскім рынку не мае.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мазыр.** На мясцовым НПЗ з-за зніжэння сусветных цэн на нафту ў 3 разы знізілася даходнасць перапрацоўкі расійскай сыравіны, дзяржбюджэт РБ недаатрымае 1 мільярд долараў.

**Мінск.** Масавыя затрымкі заробкаў, як заявіла эканаміст даследчага цэнтра BEROS К. Барнукова, узніклі з-за зніжэння попыту на беларускую прадукцыю на рынках РФ і свету.

**Смалявічы.** А. Лукашэнка прапанаваў у кожным раёне краіны акрамя аграгарадкоў вызначыць яшчэ па 3-5 перспектыўных вёсак, дзе ўзводзіць даступнае людзям жыллё.

**Мінск.** Віцэ-прэм'ер урада РФ А. Дварковіч пацвердзіў, што праект стварэння сумеснага холдынга "Росбелаўта" для Расіі ўжо неактуальны, нецікавы рускім болей і сам МАЗ.

**Брэст.** У бліжэйшай перспектыве беларусаў, як пацвердзіла глава прадстаўніцтва ЕС у Беларусі, Майра Мора чакае істотнае аблягчэнне візавага рэжыму з Еўрасаюзам.

**Гомель.** Па ўсёй краіне выклікаў шок факт забойства двух маленькіх дзяцей іх 25-гадовай мярзотніцай маці, адзін загінуў у ванне з-за недагляду, другога яна сама ўтапіла.

**Магілёў.** На заводзе "Строммаш" ужо 3 месяцы не выплочваюць зарплату, яе выдалі толькі за снежань, пайшлі чуткі аб звальненні 800 чалавек, продажы часткі фондаў.

**Мінск.** Сёння ў апазіцыі, як заявіў экс-старшыня Вярхоўнага Савета С. Шушкевіч, пасля зыходу з палітыкі У. Някляева, не засталося нікога, на каго можна было б зрабіць стаўку.

**Пінск.** Былы начальнік гарадской ДАІ атрымаў 2 гады турмы за перавышэнне службовых паўнамоцтваў і незаконныя загады падначаленым вызваляць парушальнікаў ад адказнасці.

**Навагрудак.** Ратуючыся ад голаду, ноччу 41-гадовы беспрацоўны бяздомны залез у вясковы хлеў, задушыў 8 курэй і неўзабаве ўсе іх з'еў, пакуль яго не арыштавалі.

**Магілёў.** З-за катастрафічнага падзення збыту прадукцыі поўнасцю спыніўся мясцовы вагонабудаўнічы завод, продажы вагонаў сёлета скараціліся ў 18 разоў, прадалі 10 штук.

**Мінск.** Міністэрства адукацыі дазволіла школам краіны самім выбіраць беларускую або рускую мову выкладання гісторыі Беларусі ў залежнасці ад падрыхтоўкі гісторыкаў.

**Гродна.** Лідар руху "За свабоду" А. Мілінкевіч пацвердзіў, што сёлета несур'ёзна без аб'яднання апазіцыі ісці на выбары, пасля іх народ адчуе яшчэ большую дэпрэсію.

**Мінск.** Галоўны рэдактар газеты "СБ. Беларусь сегодня" Павел Якубовіч заявіў, што надышоў час больш рэзка казаць аб негатыўным уздзеянні тэлеканалаў Расіі на нас.

**Салігорск.** Большую частку горада абсясточыў неверагодна моцны вецер, днём стала цёмна, як ноччу, абрушылася бетонная агароджа гарадскога стадыёна.

## Аўтамабілісты Беларусі будуць здаваць экзамен па-новаму




■ БЕЛТА

**У Беларусі ўнесены змены ў Інструкцыю аб парадку прыёму кваліфікацыйных экзаменаў на права кіравання механічным транспартным сродкам (за выключэннем колавага трактара). Такое рашэнне змяшчаецца ў пастанове Міністэрства ўнутраных спраў ад 3 красавіка 2015 № 93, апублікаваным на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.**

Пастановай вызначаны парадак прыёму экзаменаў: спачатку тэарэтычны, затым практычны. Асоба, якая здала тэарэтычны экзамен, допускаецца да здачы практычнага іспыту на працягу наступных 6 месяцаў, па заканчэнні якіх тэарэтычны экзамен прызначаецца зноў. Практычны экзамен на вучэбным аўтамабілі прымаецца ў два этапы: першы - на аўтадроме, другі - на выпрабавальным маршруце ва ўмовах рэальнага дарожнага руху. Паўторна экзамены прызначаюцца не раней, чым праз шэсць дзён з дня, наступнага за днём апошняга іспыту, паведамляе БЕЛТА.

Для тых, хто не здаў тэарэтычны экзамен альбо адзін з этапаў практычнага іспыту з трэцяй і наступных спроб, паўторны экзамен прызначаецца не раней чым праз 30 дзён. У выпадку непрадстаўлення экзаменацыйнай карткі па тэарэтычным і практычным іспытах у РЭП для атрымання вадзіцельскага пасведчання на працягу трох гадоў тэарэтычны і практычны экзамены прызначаюцца зноў.

Тэарэтычны экзамен, які прымаецца па квітках з выкарыстаннем аўтаматызаваных сістэм, павінен доўжыцца не больш за пятнаццаць хвілін, а па квітках на папяровым носьбіце - не больш за трыццаць хвілін. Рашэнне аб прыёме тэарэтычнага іспыту па квітках на папяровым носьбіце прымаецца старшынёй камісіі па ўзгадненні з экзаменатарамі. Станоўчая адзнака «здадзены» выстаўляецца ў тым выпадку, калі экзаменуемы дапусціў не больш за адзін няправільны адказ. Асобам, якія на працягу пазначанага часу адказалі не на ўсе пытанні экзаменацыйнага білета, выстаўляецца адзнака «не здадзены».

Акрамя таго, цяпер пры здачы практычнага іспыту дазволена карыстацца радыёэлектроннай прыладай для навігацыі (GPS-навігатарам). Рашэнне абяго выкарыстанні прымае старшыня камісіі па ўзгадненні з экзаменатарамі. Экзаменатар перад пачаткам прыёму іспыту ўносіць выпрабавальны маршрут у GPS-навігатар.

Апеляцыю зараз можна будзе падаваць толькі адзін раз, паўторная апеляцыя разгляду не падлягае і вяртаецца экзаменуемым.

Пастанова ўступае ў сілу пасля яго афіцыйнага апублікавання

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** Пасля перапынку канцэрн "Белнафтахім" вырашыў аднавіць пастаўкі ў Расію нафтапрадуктаў вытворчасці ААТ "Нафтан", хоць цэны для нас нявыгадныя.

**Орша.** З-за атраўлення прадуктамі гарэння на кухні на пажары ў адной з кватэр горада загінулі вечарам 28-гадовая маці і дзве яе дачкі ва ўзросце 6 і 7 гадоў.

**Віцебск.** Ужо палова аўтобуснага парку ААТ "Віцебскаблаўтатранс" зношана і патрабуе замены, грошай на закупку новай тэхнікі няма, але летась удалося набыць 51 аўтобус.

**Наваполацк.** Каб не дапусціць даўгоў па зарплаце і выплаціць заробкі 31 сакавіка, будтрэсту № 16 прыйшлося ўзяць суду ў іншым банку і выдаць людзям новыя карткі.

**Талачын.** Былы міліцыянер у лясным гушчары за вёскай Пятрышы застрэліў 44-гадовага інспектара, калі той затрымаў браканьера, сіротамі засталіся двое дзяцей.

**Полацк.** У гарбальніцы пачаў працаваць з ліку навучэнцаў мясцовага медкаледжа першы ў вобласці студэнцкі медыцынскі атрад "Медык", яны з'явяцца яшчэ ў Оршы і Віцебску.

**Гарадок.** Суд аштрафаваў на 5,4 млн. рублёў актывіста партыі БНФ Л. Аўтухова за тое, што ён параўнаў чыноўніка з "тэрарыстам з ДНР" за каманду зняць з уліку біржы працы.

**Віцебск.** Следчыя выявілі, што былы дырэктар садавінагароднінага камбіната нанёс яму значны ўрон, калі загадаў закапаць 15 тон пратэрмінаванага дзіцячага харчавання.

**Глыбокае.** Услед за іншымі рэгіёнамі Віцебшчыны ў раёне спынілі сваю дзейнасць 9 аддзяленняў сувязі на вёсцы, замест іх працуюць 5 перасоўных на калёсах па графіку.

**Гарадок.** У райцэнтры распачалі крымінальную справу супраць 68-гадовага бацькі, які на падпітку часта здзекваўся і збіваў 34-гадовага сына-інваліда 1-й групы, ахвяру ДТЗ.

**Віцебск.** Падчас акцыі "Дом без насілля" выселілі з кватэры і ізалявалі ад сям'і на 10 сутак сямейнага скандаліста, яшчэ сем сямейных дэбашыраў афіцыйна папярэдзілі.

**Паставы.** На выязным пасяджэнні камісіі па справах непаўналетніх у Лынтупскім сельсавеце прыйшлося забраць 4 дзяцей з сацыяльна небяспечнай сям'і з вёскі Палессе.

**Гарадок.** Толькі на тэрыторыі Віраўлянскага сельсавета стала ўжо 12 поўнасцю абязлюдзеўшых вёсак, вакол іх баршчавік Сасноўскага вырас вышынёй больш 3-х метраў.

**Талачын.** Ноччу на трасе Брэст-Масква 33-гадовая кіроўца БМВ збіла насмерць ля вёскі Старая Будаўка 18-гадовую дзяўчыну без флікера, якая раптам выйшла на дарогу.

**Наваполацк.** Горшым стадыёнам Беларусі спецыялісты зноў назвалі мясцовы "Атлант", на арэне нічога не змянілася за 40 год эксплуатацыі, горад не аддае яго ФК "Нафтан".

*Служба інфармацыі "ВГ".*

**Уладзімір Арлоў:**

**“Падабаецца гэта камусьці ці не, але мы ўсе – дзеці і ўнукі не лепшых, а горшых. Мы нашчадкі тых, хто не загінуў у паўстаннях, каго не згнаілі на царскай катарзе ў Сібіры, не знішчылі фізічна ці духоўна ў ГУЛАГу, каму не стрэлілі ў патыліцу ў Курапатах. Мы дзеці і ўнукі тых, хто прыстасаваўся, схаваўся, не адважыўся. Але гэта не значыць, што мы павінны жыць, сыходзячы з гэтых прынцыпаў”.**

## *Глыбоцкі пантэон:*
# Алесь Марговіч,
## журналіст, пісьменнік, выдавец, аналітык, дзяяч беларускай эміграцыі.

**Уладзімір Скрабатун**

Глыбокае заўсёды было знакавым горадам для Беларусі. Дзясяткі і дзясяткі дзеячоў беларускага адраджэння і вызвольнага руху нарадзілася тут і ў блізкіх ваколіцах. Няшмат з беларускіх гарадоў і мястэчак можна паставіць побач з Глыбокім! Ну, хіба што Слуцк.

Гэта была адметная місія Віленшчыны, і Дзісеншчыны ў прыватнасці, да якой належала і Глыбокае – быць бастыёнам беларушчыны!

Здрабнела сёння Глыбокае! Ой, як здрабнела! Бастыён паў! Дзеці і ўнукі горшых здалі яго без бою!”

Цытата з выказваннай беларускага пісьменніка Уладзіміра Арлова тут, як раз да месца. У 1920-30 гг на Глыбоччыне быў вялікі грамадскі рух за беларускія школы, гімназіі, за вылучэнне сваіх беларускіх дэпутатаў у польскі Сойм, дзейнічалі масавыя беларуская грамадскія і палітычныя арганізацыі...

Так, сталінскія рэпрэсіі, віхуры Другой сусветнай вайны зрабілі свой жахлівы адбітак. Хто не загінуў за свабоду Беларусі, быў вымушаны з’ехаць на эміграцыю.

На вольнай ад патрыётаў тэрыторыі дзеці і ўнукі горшых пачалі “зачыстку” ад усяго, што тут нагадвала б аб Беларусі: бурылі цэрквы і касцёлы, збіралі подпісы на закрыццё беларускіх школаў, пісалі паклёпы ў дзяржбяспеку... І гэта цягнецца да сёння. А мы ўсё задаёмся пытаннем: калі ж мы нарэшце зажывём добра?

Адным з тых, хто вымушаны быў з’ехаць з Бацькаўшчыны – Алесь Марговіч.

Алесь Марговіч (псеўданім Алесь Галубіцкі) нарадзіўся ў Глыбокім 5 ліпеня 1924 г. Журналіст, пісьменнік, выдавец, аналітык, выбітны дзяяч беларускай эміграцыі.

У часе вайны настаўнічаў і хіба што тады ўступіў у Саюз Беларускай Моладзі.

У 1944 годзе выехаў у Нямеччыну, па сканчэнні Другой сусветнай вайны апынуўся ў беларускім лагеры ў Рэгенсбургу. Вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У Міхельсдорфе заснаваў выдавецтва “Крыніца”, дзе выходзіў часопіс беларускіх скаўтаў “Напагатове!”

У 1948 годзе разам з іншымі сябрамі “Дванаццаткі”[1] прыбыў у Вялікабрытанію для працы



**Алесь Марговіч**
(05.07.1924, Глыбокае - 11.10.1967, Мюнхен)

ў вугальных капальнях. Быў сябрам Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі, сакратаром Другога з’езду гэтай арганізацыі.

10 студзеня 1948 г. пабачыў свет першы нумар унікальнага моладзевага часопіса “Наперад!”. Ён выдаваўся групай хлопцаў-беларусаў, якія спачатку паехалі працаваць у Англію ў вугальных капальнях, каб зарабіць на атрыманне вышэйшай адукацыі, а потым паступілі ў Лювенскі Універсітэт у Бельгіі. Цягам гэтага часу (1948-1953) з перапынкам, праўда, яны і выдавалі свой часопіс, напаўняючы яго найперш уласнымі тэкстамі.

Рэдагавала “Наперад” “Дванаццатка”, адказным рэдактарам быў Алесь Марговіч.

У 1950 годзе Алесь Марговіч выехаў на навучанне ў Бельгію. Будучы праваслаўным, скончыў факультэт паліталогіі і сацыялогіі каталіцкага Лювенскага Універсітэта.

На чужыне Алесь Марговіч сумаваў па далёкай радзіме, апісваў у празаічных творах успаміны з далёкага дзяцінства, згадваў Галубіцкую пушчу і псеўданім сабе абраў – Алесь Галубіцкі.

**“Галубіцкая пушча”**
*(урывак):*

*“... Аж прыйшоў нарэшце даўгачаканы дзень – мяне бацька ўзяў із сабою ў пушчу. Гэта было вялізарнае падарожжа ў нязнанае. Праўда, тады, яшчэ дзіцячай душою, я ня мог адчуць і зразумець тае прыгажосьці ляснога каралеўства, але замест гэтага яна зрабіла на мяне незацёртае ўражаньне сваёй веліччу. Калі ж мне прыходзілася чуць у казках бабулі аб такіх адлеглась-цях, як „за сямю марамі, за сямю гарамі”, дык мне, пабачыўшы пушчу, лёгка было прадстаўляць іх: яны былі мне такімі вялікімі, як адлеглась ад нашае хаты да самае сярэдзіны пушчы. Зразумела, што ўсе тыя цуды, каралі, князі, рыцары, палацы, замкі, чараўніцы, разбойнікі мусілі быць таксама недзе ў самай сярэдзіне пушчы, куды дарогі ня знаў ніхто, хіба толькі мой бацька ды маці.*

*Дваццаць пяць кілёмэтраў на ўсход ад Глыбокага пачынаюцца вялізарныя лясы. Яны суцэльна пакрылі агромністую плошчу зямлі. На поўнач – цягнуцца амаль да самае Дзьвіны, на ўсходзе Лепель дасягаюць, ды на поўдні губяцца ў прыбярэзінскіх тапелях і балотах. З гэтае ляснае краіны бярэ свой пачатак Вула, што цячэ ў Дзьвіну, тут у дрыгвянай твані ў асоках нарадзілася й Бярэзіна, ды не пасябраваўшы з Вулай, пацягнулася на поўдзень, а толькі дагадліўвія людзі прымырылі іх, злучыўшы Бярэзінскім каналам.*

*Ня маюць свайго назову гэтыя лясныя абшары, іх завуць проста пушчай. У нас называлі Галубіцкай пушчай, ад мястэчка Галубічы, мінуўшы якое ўжо здалёк можна бачыць сінюю стужку лясоў. Гэты назоў быў хутчэй мясцовым і адносіўся толькі да тае часткі пушчы, што ляжала з боку Галубічаў. (...)”*

У 1950 г., у Мюнхене быў заснаваны Інстытут вывучэння СССР, які ад 1951 г. стаў атрымліваць сталыя датацыі Амерыканскага камітэта. Галоўнай мэтай стварэння Інстытута было навуковае даследаванне жыцця ў СССР (з гістарычнага, геаграфічнага, рэлігійнага, культурнага, статыстычнага гледзішча), што цалкам адпавядала новай канцэпцыі супрацьстаяння. Былі сярод супрацоўнікаў Інстытута і беларусы: Алесь Марговіч, Антон Адамовіч, Сымон Кандыбовіч, Станіслаў Станкевіч, Павел Урбан, Надзея Тэадаровіч (Абрамава), ды інш.,

Працуючы ў Інстытуце вывучэння СССР у Мюнхене Алесь Марговіч рэдагаваў “Беларускі зборнік” і Belorussian Review, выдаваныя Інстытутам. Супрацоўнічаў з газетай “Бацькаўшчына” і беларускай рэдакцыяй радыё “Вызваленьне” (цяпер “Радыё Свабода”), чытаў тэксты.

Газета “Советская Белоруссия” 18 снежня 1997 года апублікавала артыкул Міхася Токарава да 80-га юбілею КГБ. Аўтар распавядаў пра шпіёнскую арганізацыю беларускіх нацыяналістаў “Комитет двенадцати”, якую чэкісты быццам раскрылі ў замежжы ў 1950-я гады. Але гэта, кажучы сучаснай мовай, быў звычайны фэйк чэкістаў, каб паказаць сваю “плённую” працу. Ніякім шпіёнам Алесь Марговіч, насамрэч, не быў!”

Згадвае Янка Запруднік, дзяяч беларускай эміграцыі ў ЗША, колішні ўдзельнік “Дванаццаткі”:

*“Дванаццатка” – гэта група беларускіх хлопцаў, якія пазнаёміліся ў больсасьці між сабою ў лягерах дэпартаваных асобаў у Нямеччыне – Рэгенсбургу і Міхельсдорфе. Яны належалі да нацыянальна сьведамай моладзі, якая мела свае ідэалы, і гэта трымала іх на чужыне.*

*У жыцьці патрэбная нейкая высокая, вялікая мэта. І калі ты ідзеш да гэтай мэты, ідзеш да тае зоркі пуцяводнай, тады жыцьцё набывае сэнс і набывае пэўную структурнасьць, ты ведаеш, чым заняцца.*

*Мы былі абсалютна перакананыя, захопленыя ідэяй служэньня Беларусі ў справе Адраджэньня. Пасьля ўжо, як мы пасталелі крыху і заангажаваліся ў палітычную работу, мы заўсёды ішлі ў гэтым самым накірунку, з гэтай думкаю пра Беларусь. І тады не было ніякай праблемы – што выбіраць, чым заняцца”.*

***

11 кастрычніка 1967 года ў Мюнхене памёр малады і здольны беларускі навуковец Алесь Марговіч. На хаўтуры 16 кастрычніка прыехалі беларускі праваслаўны святар з Бельгіі айцец Яўген Смаршчок, з Рыму – зямляк, родам з Браслаўшчыны – біскуп Чэслаў Сіповіч, на пахаванні яму дапамагаў дыякан з украінскай царквы.

На магіле каханага Алеся яго жонка немка паставіла цудоўны і прыгожы помнік.

[1] **«Дванаццатка» – група маладых людзей: Уладзімір Цвірка, Павел Дзмітрук, Леанід Карась, Алесь Марговіч, Васіль Шчэцька, Павел Урбан, Міхась Вострыкаў, Янка Запруднік, Янка Жучка, Алесь Бута, Алесь Швайчук, Піліп Дзяхцяр, якая, ратуючыся ад рэпатрыяцыі ў СССР, выехала ў 1947 на вугальныя капальні ў Англію. У 1950-м 9 чалавек (апрача А.Буты, А.Швайчука, П.Дзехцяра) пераехалі ў Бельгію, дзе вучыліся ў Лювенскім Універсітэце. Удзельнікі «Дванаццаткі» адыгралі значную ролю ў беларускім эміграцыйным жыцці.**

**Надмагільны помнік глыбачаніну Алесю Марговічу ў Мюнхене.**

**Гэта – вобраз маладой дзяўчыны, якая смуткуе па каханым (Алесь Марговіч памёр досыць маладым – яму споўнілася ўсяго 43 гады).**

**Яго жонка была немка, якая займалася імпартам тэкстылю з Італіі. Замовіла там гэты дарагі помнік па мужу.**

**Гарадскія ўлады Мюнхена, зыходзячы з высокіх эстэтычных якасцяў помніка, прасілі нават паставіць яго на адной з плошчаў горада як твор мастацтва – удава адмовілася.**

**Алесь Марговіч пахаваны на цвінтары** Perlacher Frost.





**Алесь Марговіч (злева) і Алесь Бута (ва ўніформе скаўта) за працай у сваім выдавецтве „Крыніца”. Міхельсдорф, лета 1947 г.**




**“Наперад”, часопіс беларускае моладзі, – адказны рэдактар Алесь Марговіч.**

# Інспектара да кожнага не прыставіш, але павінна быць асабістае сумленне

**Заканчваецца красавік, і хай няма цёплых дзён, вакол усё ажывае. Прырода цалкам зменьваецца, расквітае сотнямі фарбаў, паветра напаўняецца водарамі кветак, птушкі пабудавалі гнёзды і чакаюць птушанят, можна падвесці папярэднія вынікі вясновага нерасту рыбы.**

**А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

За красавік супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету сумесна з работнікамі іншых прыродаахоўных службаў затрымана больш за 20 грамадзян, якія парушылі прыродаахоўнае заканадаўства. Нягледзячы на вялікую колькасць затрыманых парушальнікаў, іх колькасць у параўнанні з 2014 годам значна скарацілася. Калі ў першы вясновы месяц нерасту рыбы 2014 года выяўлена 29 парушэнняў, з якіх 2 крымінальна-каральныя, то ў бягучым годзе толькі 23 парушэнні, але асноўная маса парушэнняў не ставяцца да парушэнняў правілаў рыбалоўства. Грамадзяне з кожным годам усё менш допускаюць парушэнняў і гэта не можа не радаваць, усё менш становіцца абыякавых да прыроды людзей, а з'явілася больш добраахвотных памочнікаў.



Усё ж без парушальнікаў праца інспектараў не абыходзіцца, а гэта складанне пратаколаў і накладанне штрафу як за незаконна здабытую рыбу, так і за выкідванне смецця, высечку дрэў і іншыя парушэнні.

Так, 17 красавіка 2015 года супрацоўнікамі інспекцыі сумесна з работнікамі міліцыі затрыманы жыхар Глыбоцкага раёна, які незаконна здабываў рыбу з дапамогай сетак на сажалцы «Азярцы». Матэрыялы накіраваныя ў раённы суд. Парушальніка чакае штраф у памеры ад 10 да 30 базавых велічынь.

26 красавіка 2015 года на сажалцы паблізу в. Верхняе Глыбоцкага раёна інспектары затрымалі жыхара Глыбоцкага раёна, які нягледзячы на забарону выкарыстання плаўсродкаў, ажыццяўляў рыбалку з самаробнага плавальнага сродку і перавышэннем дазволенай колькасці вуд. На заўвагі інспектара аб парушэнні адказаў, што ён мясцовы і яму можна. Складзены пратакол і разбор парушэння ў судзе, які неўзабаве адбудзецца, хутка астудзіў гарачага рыбака.

У перыяд з 13 па 27 красавіка інспектарамі міжраённай інспекцыі за забруджванне водаахоўных зон і прыбярэжных палос вадаёмаў, драўнянахмызняковай раслінасці прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці 8 грамадзян.

Хацелася б звярнуцца да рыбаловаў-аматараў, якія наведваюць нашы вадаёмы. Грамадзяне, паглядзіце вакол сябе, што вы робіце з берагамі азёр і рэк – пустыя бутэлькі з-пад спіртнога, мінеральнай вады, бляшанкі, папера – і гэта ўсё робіце вы, так званыя рыбакі. Інспектара да кожнага не прыставіш, але павінна быць асабістае сумленне, гонар за сябе, за нашу прыгожую зямлю. Не пакідайце пасля сябе, калі ласка, смецце і прымушайце гэта рабіць іншых, каб не быць абыякавымі.

Работнікамі Глыбоцкага доследнага лягсага ў месцах, якія найбольш наведваюцца грамадзянамі, будуць усталёўвацца сістэмы відэафіксацыі. Аматарам выкінуць смецце ў лес зараз прыйдзецца добра маскіравацца, а пакаранне будзе няўхільным.

З 24 па 30 красавіка на тэрыторыі раёна будзе праводзіцца акцыя «Чыстыя азёры», усе жадаючыя добраахвотнікі могуць прыняць удзел у акцыі, тым самым выказаць сваю грамадзянскую пазіцыю, аказаць садзейнічанне ў навядзенні парадку на вадаёмах. Па ўсіх пытаннях можна звяртацца ў Глыбоцкае раённае таварыства паляўнічых і рыбаловаў па тэлефонах: 2-86-96 і 2-86-97

Вялікі дзякуй грамадзянам, якія аказваюць дапамогу супрацоўнікам інспекцыі ў навядзенні парадку на вадаёмах і ў лясах раёна. **Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведамляць па тэлефонах Глыбоцкай міжраённай інспекцыі: «гарачая лінія» - 8-02156-28670 (кругласутачна), маб. тэл. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**



Смецце на беразе возера Падлазнага. *Фота Валянціна Лупача*

# У Паставах ушанавалі памяць славутага земляка

**У Паставах 25 красавіка прайшоў конкурс чытачоў, прысвечаны 115-годдзю з Дня нараджэння паэта і пісьменніка Уладзіміра Дубоўкі. Пра гэта паведаміла бібліятэкар пастаўскай дзіцячай бібліятэкі Людміла Семенас.**

**Зміцер Лупач**



Уладзімір Дубоўка

Арганізавалі мерапрыемства Пастаўская раённая дзіцячая бібліятэка імя Уладзіміра Дубоўкі і Пастаўскі раённы цэнтр па рабоце з дзецьмі і моладдзю. У конкурсе ўзялі ўдзел 36 вучняў, прычым не толькі з гарадскіх школ.

Дзеці былі добра падрыхтаваныя, таму журы было цяжка вызначыць пераможцаў. Але ж яны былі вызначыныя, лепшай журы прызнала выступ вучаніцы з Варапаеўскай школы, якая сама напісала музыку да верша Уладзіміра Дубоўкі і сама на гітары выканала гэты твор. Больш падрабязна пра гэта чытайце ў наступным нумары газеты.

Уладзімір Дубоўка, беларускі паэт, нарадзіўся ў 1900 годзе ў вёсцы Агароднікі Пастаўскага раёна, у 1915 годзе сям'я пераехала ў Маскву. У 1930 годзе быў арыштаваны за верш «За ўсе краі, за ўсе народы свету», які быў прысвечаны падзелу Беларусі па Рыжскай дамове 1921 года. Амаль трыццаць гадоў правёў у зняволенні. Канчаткова рэалібітаваны ў 1958 годзе. Памёр у Маскве ў 1976 годзе.

Ніжэй прыводзім верш паэта, які спрычыніўся да арышту паэта. Шмат што ў ім, на жаль, актуальна і да сённяшняга часу.

За ўсе краі, за ўсе народы свету,
І што былі, і прыйдуць што пасля:
Аздобленае горкім цьмяным цветам
Зазнаць нам гора лёс благі паслаў.

Скараліся і моўчкі ўсё прымалі:
Самохаць можа прыйдзе лепшы час.
Як лісцінку на поплаве качалі
І зневажалі чужаніцы нас.

Калонія праз некалькі сталеццяў,
Наедак ненажорным груганом...
Я прысягаю – праклянуць нас дзеці...
За апяшаласць нашу нам праклён.

На плечы ганьбы мы прынялі многа:
Нявольніцтва, жабрацтва навакол.
Слязьмі сясцёр чужынцам мыем ногі,
Заместа песень стогны бедакоў.

Прыціх наш край: ад гутарак аскома...
Прыціх наш край: маўчаць, усе маўчаць.
Свабодай карыстаюцца сачкомы,
Каб тых, хто мысліць, у астрог саджаць.

Дакуль чакаць і варажыць павінны?
Пакуль раса не выесць вочы нам...
З усіх бакоў над нашаю краінай
Сплялася несусветная мана.

На нашым карку торг спраўляе смела
Масква з Варшавай, з Рыгай і Літвой,
І наша змучанае катам цела
Штогодна новай кроіцца мяжой.

Масква сусвету вушы прашумела
Пра самавызначэнне аж да зор.
Смаленск дзе? Невель? Гомель* дзе падзела?
Стварыла гомельскі ганебны калідор.

..............................................
..............................................
..............................................
..............................................

Мы цацкай нейкай для чужынцаў сталі,
Пасмешышчам для свету усяго,
Як быццам мала ў нашай волі сталі,
Як быццам ў сэрцах нашых згас агонь.

Браты мае! Даволі ашуканства!
Гасцей да хаты выправіць пара.
З лазы заплаканай спляцём ім кайстры
Для нарабаванага у нас дабра.

Сляды іх гідкія пяском пасыпем,
Пясочкам светленькім пасыпем іх,
Каб гэтай шумы, акупантаў-злыдняў
Апошні водгук прагучэў і сціх.

А не, дык надармо усё, жыццё надарма,
Лажыся ў яму Сам, Народзе мой, –
Пакуль ты сам не будзеш гаспадарыць,
Не развітаешся з жабрацкай калітой.

*29 верасня 1926 г.*
*г. Менск*

* калі пісаўся верш, Гомель яшчэ не быў перададзены Беларусі *(заўвага З.Л.)*

# Адкрыта грамадскае абмеркаванне праекта ўказа аб барацьбе з зарплатай у канвертах

**На Прававым форуме Беларусі і на сайце Міністэрства па падатках і зборах для грамадскага абмеркавання размешчаны праект указа прэзідэнта «Аб мерах па прадухіленні выплаты ўзнагароджання за працу з ухіленнем ад уплаты падаткаў і іншых абавязковых плацяжоў».**

Акт заканадаўства, у прыватнасці, прадугледжвае, што ў выпадку добраахвотнага паведамлення фізічнай асобай аб прыкметах выплаты (выдачы ў натуральнай форме) яму даходу без адлюстравання ва ўліку і (або) прадстаўлення дакументаў, якія сведчылі б аб такіх прыкметах, а таксама прадстаўлення пісьмовай згоды на дачу па згаданым факце паказанняў сведак, яна лічыцца як асобай, якая выканала абавязак па ўплаце падаходнага падатку, абавязковых страхавых узносаў, узносаў на прафесійнае пенсійнае страхаванне ў бюджэт дзяржаўнага пазабюджэтнага фонду сацыяльнай абароны насельніцтва з даходу, выплачанага (выдадзенага ў натуральнай форме) яму без адлюстравання падатковым агентам у бухгалтарскім уліку (уліку даходаў і расходаў,штоажыццяўляецца індывідуальным прадпрымальнікам, уліку даходаў і расходаў, які прымяняецца пры спрошчанай сістэме падаткаабкладання).

Адпаведную інфармацыю, дакументы, пісьмовую згоду на дачу сведкавых паказанняў можна будзе прадставіць па выбары фізічнай асобы ў падатковыя органы, Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства працы і сацыяльнай абароны і яго тэрытарыяльныя органы, Беларускае рэспубліканскае унітарнае страхавое прадпрыемства «Белдзяржстрах». Яны ў межах сваёй кампетэнцыі будуць прымаць меры, скіраваныя на пацвярджэнне факта выплаты (выдачы ў натуральнай форме) даходаў фізічнай асобе без адлюстравання ва ўліку.

***Вячаслаў Будкевіч,***
*БелаПАН*

## Будзьце асцярожныя каля ліній электраперадачы!

■ А.А. Бекіш,
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МрА*

**Паветраныя лініі электраперадачы і трансфарматарныя падстанцыі з'яўляюцца аб'ектамі падвышанай небяспекі. Распаўсюджванне агню каля гэтых электраўстановак можа прывесці да парушэння электразабеспячэння населеных пунктаў, прадпрыемстваў, іншых сацыяльных аб'ектаў.**

У сувязі з высокімі рызыкамі ўзнікнення пажараў у перыяд высокіх тэмператур просім вас няўхільна выконваць правілы пажарнай бяспекі паблізу аб'ектаў электрасеткавай гаспадаркі, не разводзіць агонь у ахоўных зонах ЛЭП, не складаваць кармы, угнаенні, салому, торф, дровы і іншыя матэрыялы, якія могуць стаць прычынай пажару. Падпал леташняй травы можа прывесці да нізавых пажараў, якія могуць пашкодзіць апоры ліній электраперадачы і вывесці са строю электраабсталяванне падстанцый.

Калі агонь разгараецца паблізу лініі электраперадачы або трансфарматарнай падстанцыі пацярпець могуць людзі, якія рызыкуюць застацца не толькі без электразабеспячэння, але і без даху над галавой.

Калі вы сталі сведкам небяспечнага ўзгарання, то неадкладна паведаміце пра гэта па тэлефоне 101.



# Не крадзі!

■ А.І. Гігола, *начальнік ААПП Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі*

**Для прадухілення крадзяжоў з аб'ектаў аграпрамысловага комплексу ў перыяд правядзення палявых работ пры арганізацыі пасяўной кампаніі органамі ўнутраных спраў раёна сумесна з зацікаўленымі службовымі асобамі суб'ектаў гаспадарання ў 2015 годзе на пастаяннай аснове праводзяцца рэйдавыя мерапрыемствы, накіраваныя на захаванне правапарадку, дысцыпліны на рабочых месцах, захаванасці сельскагаспадарчай тэхнікі і матэрыяльных рэсурсаў. Асаблівая ўвага надаецца сельскагаспадарчым арганізацыям.**

Па выніках 42 маніторынгаў сельскагаспадарчых аб'ектаў на 172 аб'ектах арганізацый АПК выяўлены недахопы тэхнічнай умацаванасці і арганізацыі вартавой аховы, па якіх накіраваны 42 прадстаўленні для ліквідацыі прычын і ўмоў, якія спрыяюць здзяйсненню правапарушэнняў. За непрыняцце мер па разглядзе прадстаўленняў да адміністрацыйнай адказнасці па арт.24.3 КоАП Рэспублікі Беларусь службовыя асобы розных арганізацый АПК прыцягваліся да адміністрацыйнай адказнасці чатыры разы. У Глыбоцкіраённы выканаўчы камітэт накiравана 8 інфармацыйных запісак.

У начны час праведзена больш за 150 праверак арганізацыі вартавой аховы на прадпрыемствах АПК. У 13 выпадках выяўлена адсутнасць вартаўнікоў на працоўных месцах. За знаходжанне вартаўнікоў на працоўным месцы ў стане алкагольнага ап'янення па ч.2 арт. 17.3 КоАП Рэспублікі Беларусь складзена 4 пратаколы. У дачыненні да 8 грамадзян, якія ўчынілі крадзеж маёмасці прадпрыемстваў і арганізацый АПК, складзеныя пратаколы па арт. 10.5 КоАП Рэспублікі Беларусь (дробны крадзеж).

У мэтах папярэджання крадзяжоў з аб'ектаў АПК праводзяцца інструкцыйныя гутаркі з працаўнікамі, адказнымі за захаванасць таварна-матэрыяльных каштоўнасцей.

Неабходна таксама папярэдзіць, што арт. 10.5 (дробны крадзеж) КоАП Рэспублікі Беларусь прадугледжвае адказнасць за ўчыненне крадзяжу, санкцыя гэтага артыкула прадугледжвае пакаранне ад 10 да 30 базавых велічынь або адміністрацыйны арышт, а пры здзяйсненні паўторнага крадзяжу штраф ад 30 да 50 базавых велічынь або адміністрацыйны арышт. Акрамя гэтага, калі сума нанесенай шкоды для арганізацыі перавышае 10 базавых велічынь, за ўчыненне такога злачынства арт.205 КК Рэспублікі Беларусь прадугледжана пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі да 3 гадоў, а па 3 і 4 частцы дадзенага артыкула да 7 і 12 гадоў пазбаўлення волі адпаведна.





## Віншаванкі

*Святлану Уладзіміраўну Смольнік*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Поздравляем все любя,
С Днём рождения тебя!
Будь такой же энергичной,
Молодой и симпатичной.
И, еще, родная мама,
Будь всегда ты рядом с нами!

***Твае родныя***

*Канстанцiна Бахiра*

**Віншую з юбілеем!**

Поздравляем, Константин,
С этим праздником большим!
Счастья, благ, любви, удачи
И здоровия в придачу!
Чтоб всегда все получалось,
И веселье удавалось!
Были яркими чтоб дни,
Как кометы, как огни!
Победил ты чтоб злой рок -
Вот тебе мой поздравок!



***Зміцер***

## Навукоўцы адкрылі дзіўныя ўласцівасці маліны

**Амерыканскія навукоўцы падчас апошніх даследаванняў прыйшлі да высновы, што маліна здольная знішчаць клеткі ракавых пухлін.**

Навукоўцы ЗША праводзілі даследаванні на жывёлах. Падчас эксперыменту хворым ракам кішэчніка жывёлам дадавалі ў ежу выцяжкі з ягад маліны. Вынікі даследаванняў паказалі, што ракавыя клеткі гінулі. Па меркаванні навукоўцаў, у барацьбе з ракам кішэчніка дапамогуць ягады любога гатунку, піша neelov.ru.

Ужо даўно вядома, што маліна мае мноства карысных уласцівасцей. Ягады маліны эфектыўныя пры лячэнні прастудных захворванняў, бо ў ёй утрымоўваецца вялікая колькасць вітаміна С.

# Падрыхтоўка да ацяпляльнага сезона 2015-2016 года

**Ацяпляльны сезон 2014/2015 падыходзіць да канца. На аснове аналізу функцыянавання ў гэтым асенне-зімовым перыядзе сістэм цеплазабеспячэння і цеплавых сетак, а таксама ўлічваючы прадпісанні Дзяржэнерганагляду, спажыўцы цеплавой энергіі павінны распрацаваць мерапрыемствы па падрыхтоўцы ацяпляльнага сезона 2015-2016 года (улічваючы ўсе негатыўныя моманты ў праходжанні гэтага ацяпляльнага перыяду), скласці і зацвердзіць у выканкаме графікі адключэння цеплакрыніц і цеплавых сетак для правядзення выпрабаванняў, рамонтаў і наладкі.**

■ Е. Н. Ішуцін,
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МрА*

Таксама павінны быць створаны камісіі па кантролі за ходам падрыхтоўкі і прыёмцы гатоўнасці да працы ў асенне-зімовы перыяд сістэм цеплазабеспячэння.

Нагадваем, што падрыхтоўка да асенне-зімовага перыяду будзе праводзіцца згодна з ТКП 388-2012 (02230/0230) «Правілы падрыхтоўкі і правядзення асенне-зімовага перыяду энергазабеспячальнымі арганізацыямі і спажыўцамі цеплавой энергіі», у адпаведнасці з якімі змененыя тэрміны афармлення пашпартоў гатоўнасці да працы ў асенне-зімовы перыяд спажыўцоў цеплавой энергіі і цеплакрыніц да 1 кастрычніка.

Гатоўнасць аб'ектаў да работы ў асенне-зімовы перыяд афармляецца пашпартам гатоўнасці ў адпаведнасці з графікам зацверджаным аблвыканкамам.

На падставе абласнога графіка распрацаваны раённыя, якія будуць накіраваны ўсім спажыўцам цеплавой энергіі. Удзел дзяржаўных інспектараў у камісіі па праверцы гатоўнасці спажыўцоў да працы ў ОЗП будзе ажыццяўляцца па пісьмовых заявах.

Да спажыўцоў, якія не выканалі ўмовы гатоўнасці да працы ў асенне-зімовы перыяд да 1 кастрычніка 2015 года, філіялам «Энерганагляд» будуць ужытыя меры, прадугледжаныя артыкулам 20.11 .КоАП.

Па ўсіх пытаннях, якія ўзніклі ў працэсе падрыхтоўкі да асенне-зімовага перыяду, звяртацца за даведкамі ў цеплатэхнічную інспекцыю Глыбоцкага МРА па тэл. 8-02156-2-87-04.

**ГРАФІК**
**афармлення і рэгістрацыі пашпартоў гатоўнасці да асенне-зімовага перыяду 2015/2016 года прадпрыемствам і арганізацыям горада Віцебска і Віцебскай вобласці**

| № п/п | Найменне спажыўца | Тэрміны стварэння камісіі па праверцы гатоўнасці энергаўстановак да працы ў АЗП 2015/2016 года | Тэрміны прад'яўлення энергаўстановак да агляду камісіяй па праверцы гатоўнасці да працы ў АЗП 2015/2016 года | Дата прад'яўлення афармленага пашпарта для рэгістрацыі ў органе Дзяржэнерганадзоры |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Школы і дзіцячыя сады | да 17.07.2015 | 20.07-31.08.2015 | 01.09.2015 |
| 2 | Навучальныя ўстановы (ліцэі, ПТВ, каледжы, універсітэты і т.п.) | да 31.07.2015 | 03.08-31.08.2015 | 01.09.2015 |
| 3 | Медыцынскія ўстановы | да 31.07.2015 | 03.08-31.08.2015 | 01.09.2015 |
| 4 | Жыллёвы фонд, які знаходзіцца на абслугоўванні ЖКГ, таварыствы ўласнікаў і т.п. | да 14.07.2015 | 20.07-31.08.2015 | 01.09.2015 |
| 5 | Ведамасны жыллёвы фонд | да 31.07.2015 | 03.08-31.08.2015 | 01.09.2015 |
| 6 | Арганізацыі і ўстановы | да 31.07.2015 | 03.08-18.09.2015 | 28.09.2015 |
| 7 | Прамысловыя і прыраўнаваныя да іх прадпрыемствы, аграпрамысловыя прадпрыемствы | да 31.07.2015 | 01.09-21.09.2015 | 30.09.2015 |
| 8 | Цеплакрыніцы Мінжылкамгаса | да 20.08.2015 | 18.08-22.09.2014 | 25.09.2015 |
| 9 | Цеплакрыніцы іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання | да 01.09.2015 | 01.09-21.09.2015 | 28.09.2015 |
| 10 | Цеплакрыніцы, якія знаходзяцца ў падпарадкаванні юрыдычных асоб недзяржаўнай формы ўласнасці | да 01.09.2015 | 01.09-21.09.2015 | 30.09.2015 |

